Выдаецца з 16 студзеня 1998 г.
Галоўны рэдактар Ігар Германчук
Заснавальнік Павел Жук
Выдавец — рэдакцыя газеты НАВІНЫ
Наклад 22 970.
Адрас для карэспандэнцыі:
220088, г.Мінск,вул. Іванаўская, 56.
Тэл/факс: 2-36-32-89

# НАВІНЫ



Пятніца, 4 верасня 1998 г. № 93 Кошт свабодны

## СВАБОДА

Забаронена 24 лістапада 1997 г.

### Доляравы голад

*Курс безнаяўнага беларускага рубля рэзка абваліўся ў чарговы раз*

Яшчэ на пачатку тыдня 1 долар каштаваў у межах 110-120 тысяч безнаяўных беларускіх рублёў. Але ўвечары 1 верасня пачаўся чарговы рост курса долара. Учора зранку «зялёны» каштаваў ужо 180 тысяч безнаяўных беларускіх рублёў. Па звестках, некаторыя банкі былі гатовыя даць за долар нават 200 тыс. «зайцоў».

Як каментуюць становішча банкіры, асноўная прычына — «доляравы голад» расійскіх, прыбалтыйскіх, украінскіх, беларускіх банкаў і прадпрыемстваў.

У выніку фінансавага крызісу попыт на долар значна вырас, і ўсе асноўныя трымальнікі грошай у Беларусі стараюцца пазбавіцца ад «зайцоў» на карысць цвёрдай валюты. У выніку на валютным рынку назіраецца паніка. Фірмы-імпарцёры пачалі закладваць у кошт замежных тавараў курс 240—250 тысяч «зайцоў» за долар. Для шэраговага спажыўца гэта можа азначаць толькі адно: чым хутчэй вы купіце імпартны тавар за рублі — тым танней ён вам абыдзецца.

**Алесь САДОЎСКІ**

### Свята беларускай нафты

**Сёння прэзідэнт Лукашэнка будзе ў Гомельскай вобласці — возьме ўдзел ва ўрачыстасцях у сувязі са здабычай 100-мільённай тоны беларускай нафты.**

Свята адбудзецца ў беларускай «нафтавай сталіцы» — Рэчыцы. Плануецца, што прэзідэнт пастаіць на мітынгу каля стэлы ў гонар першаадкрывальнікаў беларускай нафты і выступіць на ўрачыстым сходзе.

*БелаПАН*

### Былы прэм'ер Ізраіля завітаў на радзіму

**1 верасня ўсяго на некалькі гадзінаў у Беларусь прылятаў былы прэм'ер-міністр Ізраіля Шымон Перэс.**

Ізраільскае тэлебачанне здымае пра яго тэлефільм, і рэжысёр захацеў зняць сюжэт са спадаром Перэсам на яго радзіме — у беларускім мястэчку Вішнева. На жаль, дом бацькоў Ш.Перэса не захаваўся, як і ешыва (іўдзейская навучальная ўстанова) у Валожыне, дзе вучыўся Перэс. На старым падмурку цяпер «Кулінарыя». Спадар Перэс і здымачная група пабывалі таксама на могілках, дзе пахаваныя родныя ізраільскага палітыка.

**Алесь ДАШЧЫНСКІ**

### Грушавы кіруе рухам

**Міністэрства юстыцыі зарэгістравала днямі новую грамадскую арганізацыю — Беларускі хрысціянска-сацыяльны рух. На чале яго стаіць вядомы дзеяч Генадзь Грушавы.**

У гэтае аб'яднанне ўвайшлі шэраг грамадскіх, гуманітарных, дабрачынных і жаночых арганізацыяў, а таксама Беларуская хрысціянска-дэмакратычная партыя. Па словах Генадзя Грушавога, БХСР хацяў і не з'яўляецца палітычнай арганізацыяй, аднак будзе спрыяць фармаванню ў Беларусі нацыянальнай дзяржаўнасці і грамадзянскай супольнасці, заснаванай на ідэях сацыяльнага партнёрства.

Г.Грушавы падкрэсліў, што арганізацыя не з'яўляецца канфесійным рухам, які імкнецца «хрысціянізаваць» грамадства. Культурна-філасофская традыцыі хрысціянства, узятыя за ідэйную аснову БХСР, павінны толькі дапамагаць фармаванню сярод людзей маралі новага салідарнага грамадства.

**Альгерд НЕВЯРОЎСКІ**

### Орша чакае гасцей

**6 верасня ў Беларусі пяты раз будзе адзначацца Дзень беларускай пісьменнасці.**

У гэтым годзе цэнтрам афіцыйных урачыстасцяў стане старажытны беларускі горад Орша — радзіма класіка беларускай літаратуры Уладзіміра Караткевіча.

Гасцей і ўдзельнікаў свята чакае тэатральнае шэсце, якое завяршыцца адкрыццём Рагвалодава каменя і пашыранай экспазіцыі музея Уладзіміра Караткевіча. Яшчэ адной падзеяй для Оршы стане адкрыццё мемарыяльнай дошкі аршанскаму друкару Спірыдону Собалю. Акрамя гэтага, у рамках свята пройдзе кірмаш мастацтваў «Народныя вытокі» і тэатралізаваны паказ «Рыцарскае двухбор'е». Закончацца ўрачыстасці перадачай эстафеты свята гораду Пінску і святочным феерверкам.

*БелаПАН*

## Будзе цёмна і холадна?

*Калі вам холадна, не спяшайцеся ўключаць награвальнік — цяпер за гэта могуць аштрафаваць*

У Мінску ўжо пачалі забараняць выкарыстанне бытавых электранагравальнікаў, але гэта датычыць пакуль што толькі службовых памяшканняў.

Адпаведнае распараджэнне выдаў сталічны гарвыканкам. Так што не спяшайцеся абвінавачваць сваіх начальнікаў у самадурстве — яны ўсяго толькі добрасумленна выконваюць рашэнне Мінскага гарадскога выканаўчага камітэта (№ 636 ад 6 жніўня 1998 г.) за подпісам мэра сталіцы Уладзіміра Ярмошына. Пастанова мае стандартную назву: «Аб мерах па скарачэнні спажывання паліва-энергетычных рэсурсаў у перыяд жнівень—снежань 1998 г.».



**Цяпер мэру Мінска Уладзіміру Ярмошыну** (на здымку) **давядзецца хавацца не толькі ад дэманстрантаў...**

На чым жа будуць эканоміць? Галоўным чынам на транспарце, святле і цяпле. У прыватнасці, транспартным арганізацыям загадана (цытуем) *«скараціць спажыванне электраэнергіі на электрыфікаваны транспарт на 15 працэнтаў, не дапускаючы пры гэтым паведічэння выпуску на лінію аўтобусаў»*. Гэта азначае, што тралейбусы і трамваі будуць хадзіць яшчэ горш, а электрычкі ў метро давядзецца чакаць даўжэй. Акрамя таго, на вуліцах стане цямней, бо вырашана *«на 25 працэнтаў абмежаваць вулічнае асвятленне»*, *«адключыць светлавую рэкламу»*, *«абмежаваць работу кіёскаў светлавым днём»*.

Гарвыканкам пастанавіў *«забараніць выкарыстанне на прадпрыемствах і ў арганізацыях электранагравальных прыбораў»*, кіраўнікам загадана *«обеспечить изъятие этих приборов из употребления»* (вось таму ваша начальнікі і шчыруюць). Прычым, гэтая забарона датычыць усіх прадпрыемстваў — *«незалежна ад ведамаснай прыналежнасці і формы уласнасці»*. Больш таго, аб'яднанню «Мінскэнерга» дадзена ўказанне *«разглядаць факты выкарыстання электранагравальных прыбораў як самавольнае падключэнне да электрычных сетак»*. За такое «самавольства» можа быць накладзены досыць буйны штраф.

Рыхтуецца яшчэ адна цікавая рэч: *«веернае адключэнне электраэнергіі»*. Як вынікае з дакумента, адпаведны графік адключэння ўжо распрацаваны, але ён будзе ўводзіцца ў дзеянне *«ў выпадку неабходнасці»*. Калі можа ўзнікнуць такая «неабходнасць» — у рашэнні гарвыканкама не гаворыцца. Так што не здзіўляйцеся, калі раптам ва ўсім вашым раёне прападзе святло на 3—4 гадзіны.

Пастанова гарвыканкама — гэта толькі першая ластаўка. Сярод іншых мераў, распрацаваных міністэрствам эканомікі і адобраных урадам, прадугледжваецца таксама адключэнне гарачай вады ў кватэрах, зніжэнне тэмпературы ў памяшканнях, абмежаванне тэлевяшчання і г.д. Так што асноўныя непрыемнасці нас чакаюць наперадзе. А пакуль што — хавайце награвальнікі, яны яшчэ спатрэбяцца.

**Мікола ГРЫНЯВІЦКІ**

## Маёр наведае Беларусь

**6 верасня ў Мінск прыбывае Генеральны дырэктар ЮНЭСКА Федэрыка Маёр.**

Упершыню Ф.Маёр прыязджаў у Мінск у 1991 годзе для падпісання двухбаковага мемарандума аб супрацоўніцтве ЮНЭСКА з нашай краінай. (Дарэчы, Беларусь з'яўляецца членам гэтай арганізацыі з 1954 года). Адметна, што другі візіт сп.Маёра ў нашую краіну адбудзецца ў год, аб'яўлены ЮНЭСКА годам Адама Міцкевіча.

Запланаваныя сустрэчы Ф.Маёра з прэзідэнтам Лукашэнкам і прэм'ер-міністрам. Будзе падпісаны мемарандум пра далейшае супрацоўніцтва. Беларускі бок спадзяецца атрымаць ад гэтай арганізацыі дадатковыя сродкі на заканчэнне рэстаўрацыі Мірскага замка.

Як паведамілі ў міністэрстве замежных справаў, сп.Маёр наведае нацыянальную Акадэмію навук, дзе мяркуецца падпісаць пагадненне аб супрацоўніцтве. Генеральны дырэктар пабывае таксама ў Нацыянальнай бібліятэцы, дзе адкрытая выстава, прысвечаная 200-гадоваму юбілею Адама Міцкевіча. Дарэчы, бібліятэку зачынілі на некалькі дзён для касметычнага рамонту. Нацыянальная бібліятэка рэалізуе сумесную з ЮНЭСКА праграму па складанні электронных каталогаў. Да прыезду Ф.Маёра плануецца выпусціць невялікую кнігу яго паэзіі ў перакладзе беларускіх паэтаў.

Генеральны дырэктар наведае мінскую школу № 201, якой уручыць пасведчанне асацыяванага члена ЮНЭСКА. Завершыцца візіт Ф.Маёра сустрэчай са студэнтамі Белдзяржуніверсітэта і прэс-канферэнцыяй у міністэрстве замежных справаў.

**Алесь ДАШЧЫНСКІ**

## Памёр кіраўнік уніятаў

**У сераду ў шпіталі памёр кіраўнік дэканата Беларускай грэка-каталіцкай царквы айцец Ян Матусевіч.**

Ён нарадзіўся ў 1948 г. у Мінску і пасля заканчэння Беларускага тэатральна-мастацкага інстытута прыняў сан праваслаўнага святара. Да 1979 г. айцец Матусевіч быў настаяцелем некалькіх праваслаўных прыходаў Расіі і Беларусі, паралельна ён вучыўся ў семінарыі горада Сергіеў Пасад пад Масквою.

Перайшоўшы ў каталіцтва, айцец Матусевіч дзесяць гадоў кіраваў парафіяй у мястэчку Баруны Ашмянскага раёна, а ў пачатку 90-х ён узначаліў рух па адраджэнні Беларускай грэка-каталіцкай (уніяцкай) царквы. З 1991 г. а. Ян Матусевіч стаў фактычным кіраўніком гэтай царквы ў Беларусі.

Айцец Матусевіч быў вядомы не толькі як рэлігійны, але і грамадскі дзеяч. Ён браў удзел у першым з'ездзе БНФ, уваходзіў у кіраўніцтва Таварыства беларускай мовы і іншых грамадскіх арганізацыяў. Многія памятаюць, як а.Матусевіч асвячаў усталяванні ў Курапатах крыж памяці ахвяраў бальшавізму і абраз Маці Божай Чарнобыльскай работы вядомага беларускага мастака Аляксея Марачкіна.

Труна з целам памерлага будзе сёння выстаўленая ў мінскім Чырвоным касцёле святых Сымона і Алены. Памінальная служба пачнецца ў суботу ў 11 гадзін. Пахаванне святара адбудзецца на Кальварыйскіх могілках у Мінску.

**Альгерд НЕВЯРОЎСКІ**

## Тэрарыст хацеў сустрэцца з чэкістам

*Беспрацоўны захапіў трох заложніц*

**У сераду ў Гродне ў 18:25 42-гадовы беспрацоўны зайшоў на перагаворны пункт Дома сувязі і, пагражаючы выбуховай прыладай, захапіў у закладнікі трох жанчын. Тэрарыст патрабаваў тэрміновай сустрэчы з супрацоўнікамі КДБ.**

Адна з кабетаў паспела націснуць сігнальную кнопку, таму міліцыя хутка прыбыла на месца здарэння. Тэрыторыя была адразу ачэпленая, людзей з будынка эвакуіравалі, а грамадскі транспарт пусцілі па іншай вуліцы. У аперацыі ўдзельнічалі, апроч звычайнай міліцыі, таксама АМОН і салдаты ўнутраных войскаў. У Дом сувязі прывезлі маці тэрарыста, але яна не змагла пераканаць сына здацца.

Аднак ён без усялякага супраціву здаўся супрацоўніку КДБ і адразу ж аддаў яму «бомбу» — муляж выбуховай прылады. Ніхто не пацярпеў.

**Сяргей АСТРАЎЦОЎ**

# Будзе закон пра хлеб і масла

**Спецыялісты міністэрства аховы здароўя выступілі з ініцыятывай: неабходна распрацаваць закон аб ежы.**

На думку медыкаў, неабходнасць распрацоўкі такога закона выкліканая нізкім узроўнем культуры харчавання ў Беларусі і недастатковай якасцю прадуктаў, паведамляе БелаПАН. У міністэрстве таксама адзначаюць, што праблема здаровага харчавання сёння характэрная для многіх еўрапейскіх краінаў. Паводле статыстыкі, сярод тых, хто памірае ва ўзросце да 65 гадоў, палова — ахвяры няправільнага харчавання.

Праведзеныя ў нашай краіне даследаванні сведчаць, што сярэднестатыстычны беларус харчуецца вельмі няправільна. Пры нашай любові да масла, маянэзу, белага хлеба, тлустага мяса мы спажываем вельмі шмат халестэрыну і вугляводаў, а садавіна і гародніна займаюць мізэрную частку рацыёну.

Няма сумнення, што прыняцце закона аб ежы павінна неяк палепшыць сітуацыю. Аднак харчаванне — гэта перш за ўсё пытанне індывідуальнай і сямейнай культуры, і адной законатворчасцю тут ніяк не абыдзешся.

**Магдалена НЕПАКАЙ**

# Сямёнаў выйшаў на волю

*Але супраць яго збіраюць новую справу*

**Выйшаў з турмы былы кіраўнік магілёўскага акцыянернага таварыства «Магатэкс» Уладзімір Сямёнаў.**

Пра ягоны лёс і працяглую судовую эпапею распавядала наша газета. Паводле версіі незалежных назіральнікаў, ён стаў ахвярай асабістай помсты прэзідэнта і паказной кампаніі па барацьбе з карупцыяй. За кратамі былы дырэктар правеў 3,5 гады: 2 гады — пакуль вялося следства, яшчэ паўтара — паводле прыгавору суда па абвінавачванні ў злоўжыванні службовым становішчам.

Поўны тэрмін зняволення яшчэ не сышоў: Сямёнава адпусцілі «ўмоўна-датэрмінова» — за прыкладныя паводзіны. Аднак падобна, што на гэтым пакуты не скончыліся. Падчас судовага працэсу частка матэрыялаў была накіраваная на дадаследаванне, і, паведамленні з праваахоўных органаў, на Сямёнава заведзеная новая справа. Цалкам верагодна, што ў хуткім часе ён зноў стане перад судом.

**Іван ЗАСАДА**

# Рок-канцэрт у гонар бітвы пад Оршай

**У нядзелю, 6 верасня а 16-й гадзіне Малады Фронт ладзіць рок-канцэрт, прысвечаны ўгодкам бітвы пад Оршай.**

Фэст пройдзе ў сталічным парку з архаічнай назвай «імя 50-годдзя Вялікага Кастрычніка». Канцэрт адбудзецца на сцэне побач са стадыёнам «Трактар». Бяруць удзел гурты «Новае неба», «Мясцовы Час», «Зьніч», «Уліс», «Крама» і N.R.M. Уваход вольны.

**М.К.**

# Лукамольцам як інвалідам

**У некалькіх раёнах Магілёўскай вобласці прэзідэнцкія патрыёты з БПСМ вырашылі раўнаць у музеі.**

Прадстаўнікі раённых камітэтаў наведваюць краязнаўчыя музеі і прапануюць, каб квіткі членам «лукамола» прадавалі за 30% кошту. Маўляў, масавае паломніцтва ў музеі «яшчэ больш узніме аўтарытэт маладзёжнай арганізацыі ў вачах насельніцтва». Музейныя супрацоўнікі ў разгубленасці: нават інваліды і дзеці плацяць 50% кошту. Зрэшты, поўны кошт квітка ў раённым музеі ўсяго 5.000 рублёў.

**Сымон ГЛАЗШТЭЙН**

# У Магілёве – на аднаго Леніна менш

*Нечаканa «вінаватым» у гэтым стаў Лукашэнка*

Гэты помнік знаходзіўся побач з абласным мастацкім музеем. Ён прастаяў тут з самых сталінскіх часоў. Побач з ім быў тады яшчэ і каменны Сталін. Але пры Хрушчове «отца всех народов» прыбралі, а Ленін устаяў.

Цяпер надышла і ягоная чарга. Як палічылі ў гарвыканкаме, помнік «не мае мастацкай каштоўнасці». Акрамя таго, ён прыцягваў пільную ўвагу маладых апазіцыянераў, якія час ад часу адбівалі ад помніка асобныя часткі.

Дэмантаж помніка пачалі раніцай 2 верасня і ўсё зрабілі вельмі хутка — менш чым за гадзіну. А вечарам таго ж дня сюды падрулiў прэзідэнцкі «мерседэс» — Аляксандр Лукашэнка па старой звычцы вырашыў спыніцца на начлег у прыбудове да мастацкага музея (раней гэта былі апартаменты абкама КПБ). Менавіта прыезд Рыгоравіча і вымусіў мясцовае начальства прыбраць пабітага Ільіча.

**Сымон ГЛАЗШТЭЙН**



*На здымку: дэмантаж статуі Ільіча.*

# Цягнік заехаў у дом

**У сераду раніцай у пасёлку Шчомысліца Мінскага раёна адбылося надзвычайнае здарэнне: тры чыгуначныя вагоны сышлі з рэек, адзін з іх протаранiў сцяну жылога дома.**

На шчасце, ніхто не пацярпеў. Грузавы цягнік ішоў у Мінск на невялікай хуткасці — каля 25 км у гадзіну. Вагоны, прызначаныя для перавозкі легкавых аўтамабіляў, былі пустыя. Гэта ўратавала ад сур'ёзных разбурэнняў двухпавярховы жылы дом, што стаяў усяго ў некалькіх метрах ад чыгуначнага палатна.

У доме жылі чатыры сям'і чыгуначнікаў. Цяпер у іх з'явілася пэўная надзея, што нарэшце іх перасяляць у больш прыдатнае да жыцця месца (у гэтым сэнсе больш за ўсё «пашчасціла» менавіта жыхарам пашкоджаных кватэраў). Дарэчы, побач ад пацярпелага будынка стаяць уздоўж рэек яшчэ тры такія ж дамы. Гаворка пра адсяленне людзей адтуль пакуль што не ідзе.

**Міхась КАРПОВІЧ**




*На здымку — месца аварыі. Відаць, што жылы дом стаіць зусім блізка да чыгункі.*

# Прадпрымальнікі рыхтуюцца да страйкаў

**Гродзенскія прадпрымальнікі, якія займаюцца гандлем на рынках, правялі сход, дзе ад імя свайго прафсаюза выклалі патрабаванні да ўладаў.**

Прадпрымальнікі лічаць, што падатковыя органы тэрарызуюць іх, могуць у любы час абшукаць, адабраць грошы і тавар, спагнаць велізарны штраф. Прадпрымальнікі адчуваюць сябе цалкам бяспраўнымі, спробы змагацца ў судзе за свае правы выніку ніколі не даюць. Яны лічаць, што памеры штрафаў не павінны перавышаць 10 мінімальных заробкаў, а не дасягаць 500, як цяпер. Яны патрабуюць спыніць пераслед з боку падатковых органаў, скасаваць нядоімкі, як было зроблена з дзяржаўнымі прадпрыемствамі. Ёсць і іншыя патрабаванні.

Калі ўлады адмовяцца рэагаваць (у чым, зрэшты, можна і не сумнявацца), гродзенскія прадпрымальнікі пагражаюць правесці ў верасні акцыі пратэсту. Страйкавы камітэт ужо створаны.

Старшыня прафсаюза Валерый Леванеўскі заклікаў сваіх калегаў падтрымаць фінансава незалежныя газеты, якія выдаюцца ў Гродне. Яны будуць асабліва патрэбныя пад час выбараў, сказаў ён. Прычым ён пераканаў, што ўдзельнічаць у будучых выбарах альбо не — пытанне другаснае. Галоўнае — быць на ўсякі выпадак гатовымі да іх, каб не апынуцца заспетымі знянацку. Трэба зазначыць, што мясцовыя прадпрымальнікі адмовіліся ад ідэі стварыць уласную партыю, за што галасавалі паўгода назад. Сам В.Леванеўскі ў палітычных пытаннях выступае з пазіцыяў Аб'яднанай грамадзянскай партыі, гарадской арганізацыяй якой цяпер кіруе.

**Сяргей АСТРАЎЦОЎ**

# Міцкевіч таксама займаўся палітыкай

*Як улады шантажуюць Саюз палякаў*

У гэтую нядзелю Саюз палякаў Беларусі будзе адзначаць сваё 10-годдзе. Напачатку гэта было гродзенскае культурна-асветнае таварыства імя Адама Міцкевіча. Агульнабеларускім Саюзам яно стала ў 1990 годзе. З нагоды юбілею ў сядзібе СПБ у Гродне адбылася прэс-канферэнцыя.

## Дзве перамогі

Перад святам палякам удалося атрымаць дзве сціплыя перамогі ў змаганні з мясцовымі ўладамі. Першая датычыць помніка Адаму Міцкевічу, які гэтай восенню павінен паўстаць у Гродне. Гарадскія ўлады, абыякавыя да знікнення беларускіх школаў, вулічных шыльдаў і г.д., раптам вырашылі, што надпіс на помніку павінен быць толькі на беларускай мове. Палякі ж хацелі мець і па-беларуску, і па-польску. Паміж гарвыканкамам і СПБ пачалася «эпісталярная вайна». Калі не дазволяць напісаць прозвішча паэта таксама і па-польску — увогуле не будзем адкрываць помнік, гаварылі ў Саюзе, маўляў, пачакаем пакуль улада зменіцца на больш дэмакратычную.

Чакаць, праўда, не давялося. Улады паказалі пернік (дакладней — паўтара), дазволіўшы дошку на дзвюх мовах і асвячэнне падмуркаў польскамоўнай школы на 190 вучняў, якая будуецца ў Ваўкавыску. Дазволена прывесці ксяндза, але забаронена выступаць з прамовамі.

## Шантаж

Апроч гэтага, улады вырашылі ўжыць шантаж адносна Саюза палякаў. На гэтым тыдні ў старшыні аблвыканкама А.Дубко адбылася нарада, прысвечаная «польскаму пытанню», на якую запрасілі старшыню СПБ Тадэвуша Гавіна. Праблемаў шмат. Напрыклад, навагрудскія ўлады не дазваляюць стварыць у горадзе польскамоўную школу, нават прыватную. Пабудаваць — прычым на польскія грошы — таксама не даюць дазволу.

Тым часам у горадзе 10-12 верасня будуць пампезна святкаваць угодкі Адама Міцкевіча. *«Мы лічым гэта паказушным мерапрыемствам»*, — гаворыць Т.Гавін. У гэтым ёсць рацыя: рэальна правы палякаў у родным горадзе вялікага паэта ўціскаюцца. Ужо два гады ўлады не дазваляюць адчыняць першыя польскія класы ў школах горада. СПБ загадзя папярэдзіў улады, што 12 верасня — у дзень, калі адбудуцца афіцыйныя ўрачыстасці з удзелам замежных дэлегацыяў і Лукашэнкі, — правядзе ў Навагрудку пікет, каб выказаць пратэст супраць дзеянняў уладаў. Хай, маўляў, і госці з-за кардону ўбачаць, як з палякамі абыходзяцца ў рэчаіснасці.

## Вайна школаў

А.Дубко зрабіў, можна сказаць, сенсацыйнае папярэджанне Т.Гавіну: польскай школы ў Навагрудку не будзе да таго часу, пакуль беларуская не паявіцца ў Беластоку. Такім чынам, беларускіх палякаў робяць закладнікамі нейкіх палітычных справаў, расцаніў заяву сам Гавін. Ён, дарэчы, звязаўся з Беларускім грамадска-культурным таварыствам у Польшчы (БГКТ), і яму сказалі, што польскія беларусы не ставяць пытання аб пабудове ў Беластоку беларускай школы (праўда, маюць праблему са сваім памяшканнем у гэтым горадзе). *«Мы — грамадзяне Беларусі і не хацелі б, каб нашыя праблемы ставілі ў залежнасць ад праблемаў грамадзянаў суседняй краіны і тым больш сутыкалі з імі»*, — гаворыць старшыня СПБ. У гэтай справе яны хочуць прыняць супольную заяву з кіраўніцтвам БГКТ.

Дарэчы, дзве арганізацыі даўно супрацоўнічаюць, 18-20 верасня правядуць супольную канферэнцыю «Шлях да ўзаемнасці» — у Беластоку, Навагрудку і Гродне.

## Інтэрнацыянальная вертыкаль

А.Дубко падкрэсліў яшчэ, што сітуацыя беларусаў у Польшчы і палякаў у Беларусі нераўназначная. Маўляў, у Беластоку на кіраўнічых пасадах няма беларусаў, а вось на Гродзеншчыне амаль паловай раёнаў кіруюць палякі. Аднак гэта палякі толькі паводле пашпарта, гаворыць Гавін, іх не цікавяць праблемы Саюза палякаў. Карацей кажучы, вертыкаль «інтэрнацыянальная», яна аднолькава дзейнічае супраць беларускай і польскай школы на карысць рускай.

Адзін з журналістаў дзяржаўнай газеты спытаўся ў Гавіна: Адам Міцкевіч займаўся не палітыкай, а паэзіяй, дык ці варта выкарыстоўваць ягоны юбілей у палітычных мэтах? Аднак Міцкевіч мусіў займацца палітыкай, ствараючы ў эміграцыі паўстанцкія легіёны, бо марыў, каб яго радзіма зноў сталася незалежнай.

Цяпер беларускія палякі таксама мусяць змагацца за тое, што ім гарантавана Канстытуцыяй. Іншага выйсця сёння няма. А ўсё было добра да лета 1994 года, — падкрэслівае лідэр беларускіх палякаў.

**Сяргей АСТРАЎЦОЎ**

*Лісты ў рэдакцыю*

# Год Маладога Фронту

6 верасня спаўняецца роўна год Маладому Фронту. У гэты дзень у 1997 г. адбыўся наш Устаноўчы Сойм, і з тых часоў маладафронтаўская тэматыка не пакідае старонак прэсы.

Феномен Маладога Фронту вызначыла імправізаванасць. Мы не бурым сістэму разнаяркіх тусовак, а прымаем яе за аснову. Тусоўка — паўфабрыкат грамадскай ініцыятывы. Паўфабрыкат салідарнасці. Трэба толькі лічыцца з тым, што вас падтрымаюць і рафінаваныя інтэлігенты, і вясёлая кампанія з вунь таго двара. Трэба даць ім магчымасць выйсці на ўзровень уласнай справы, клуба, газеты, камп'ютэра. Трэба ўмець не адымаць і загадваць, а аб'ядноўваць і addаваць.

Гэта ў дарослай палітыцы ўсё вырашаюць кадры. Тут, сярод моладзі, усё вырашаюць асобы, імпэт і настрой. Лідэр, ідэя, тусоўка, маментальны масавы стрэс — і атрымайце чарговую хвалю. Катэгоры адміністравання бяссільныя. Вось чаму моладзь гэтак бурліва ўздымаецца. Вось чаму зараз яна так прыціхла. Гэта вам не матор БНФ, які бесперабойна і звыкла гудзіць вось ужо дзесяцігоддзе.

Моладзь у свой час адчуе ў паветры флюіды. Хтосьці праспявае «Перамен!» Маладыя секунду падумаюць, скаўтнуць адрэналін — «А пайшлі вы ўсе!..» — і сарвуцца. Баюся, тады ўжо будзе позна казаць пра мілаcэрнасць.

Паўсюль, дзе нам давялося мець справу з самай звычайнай моладдзю, стаўленне да беларускага абазначаецца гэткай кранальнай цікавасцю і разуменнем. Маўляў, вы малайцы, што гэтым займаецеся. Канечне, усё гэта трэба. Трымайцеся, хлопцы, мы з вамі. Гаворка ідзе не пра Фронт, заўважце. Не пра палітыку. На ўвазе маецца менавіта краіна, культура і нацыя. Амаль для ўсяе нашае моладзі **Беларусь — гэта святое.** Ад хакейнае зборнай і піва «Крыніца» да бел-чырвона-белага сцяга. І гэта цудоўна.

Ізноў жа, паўторана шмат разоў. Моладзь змагаецца не супраць таго ж Лукашэнкі, не супраць Расіі. А **за** Беларусь. Успомніце кадры сербскіх студэнцкіх пратэстаў. Калі ісці супраць — не будзе нічога, апроч нянавісці. Толькі **за**, і толькі з любоўю. Тады перамога.

Маладым Фронт — гэта гучыць узнёсла і трошачкі страхавіта. Шмат хто сімпатызуе, многія пабойваюцца. Фронт — слова настолькі знаёмае Беларусі, што ўзнікаюць сумненні — ці трэба?.. Фронт — гэта зарад, наступальнасць. Апалчэнне духу. Моладзь імкнецца да лепшага напралом. Радыкалізм? Інтэлектуальны. Вам вядома, што маладафронтавец Мікола Пачкаеў у свае 28 гадоў з двума замежнымі дыпломамі і паўтузінам еўрапейскіх моваў выкладае паліталогію ў Кембрыджы? Ці ведаеце вы, што вольныя мінскія камп'ютэршчыкі, скаапераваўшыся з украінцамі, разгортваюць цэлыя віртуальныя пабоішчы з маскоўскімі хакерамі? Што беларускія рок-гурты з унікальнымі, еўрапейскага кшталту кампазіцыямі, граюць перад публікай за гарачы чаёк з тэрмаса? Гэта Фронт.

Фронт антыцыклону. Фронт трэцяга тысячагоддзя. Ён нябачны, ціхі, ён набіраецца сілаў. Працэсы ідуць. Грамадства штогод маладзее на цэлае пакаленне. Юнеюць газеты, камерцыя, электарат. Таму сапраўдны Год Маладога Фронту яшчэ наперадзе. Можа быць, гэта будзе 99-ты. Можа быць, менавіта ў ім беларуская моладзь у адначчассе, у азарэнні падзей, уразумее, якую краіну яна згубіла. Альбо — у якой Беларусі ёй жыць. Можа быць, якраз на гэтым разломе адкрыецца шыхт герояў і геніяў. І тады ўсе ўбачаць, што ж гэта такое — МАЛАДЫ ФРОНТ.

**Павел СЕВЯРЫНЕЦ**




# Студэнцкае свята




Дзень 1 верасня стаў першы днём заняткаў не для ўсіх студэнтаў і выкладчыкаў Беларускага дзяржаўнага універсітэта. Тыя, хто вучыць і вучыцца ў другую змену, павінны былі ахвяраваць лекцыямі дзеля больш важнай справы — свята «Vivat, студэнт!» на плошчы Незалежнасці. Галоўным завадатарам фэсту стаў Беларускі дзяржаўны універсітэт, але радавацца і весяліцца маглі ўсе.

Рэктар БДУ Аляксандр Казулін, як звычайна на падобных імпрэзах, апрануў мантыю і прафесарскую шапку *(гл. здымак уверсе)*. Ён асабіста праводзіў цырымонію пасвячэння ў першакурснікі на фоне гіганцкага студэнцкага білета. Пасля быў і канцэрт беларускіх выканаўцаў, і дыскатэка, і выступ расійскай папсовай групы «На-на». Хлопцы-«нанайцы», нягледзячы на халоднае надвор'е, скакалі напаўголыя *(на здымку справа)*. Яны, відаць, думаюць, што гэта прыгожа.

А найбольш давялося папацець міліцыі. Асаблівых беспарадкаў не было (тым больш, што ў цэнтры Мінска крамы не прадавалі спіртное і піва). Аднак нават вялізная плошча Незалежнасці не магла змясціць усіх ахвотных. Кажуць, што моладсць не ведае межаў. Тым больш ёй цяжка ўпісацца ў тэрыторыю, адгароджаную міліцэйскімі кардонамі.

**Магдалена НЕПАКАЙ**




# Не могут быть все плохими, а один – хороший

Здравствуй, дорогая редакция! Пишу вам с надеждой, что мое письмо напечатает ваша газета. Я не принадлежу ни к какой партии. Пишу потому, что надоело жить так, как живем мы сейчас. Да и страшно стало жить в этом сплошном беззаконии: правовом, моральном, криминальном.

Балотируясь в президенты, Лукашенко столько всего наобещал. А что он выполнил? Придумал «президентскую вертикаль». А посмотрите кто там — все те же, кто был при «кормушке» в годы правления компартии.

Многие могут сказать, что при коммунистах жилось хорошо. Но все за счет чего? В одной из передач НТВ я услышал такую информацию, что в начале 50-х годов *«золотой запас СССР составлял 1.200 тонн, но за годы правления Брежнева уменьшился до 200 тонн»*. Вот за счет чего и создавалась видимость хорошей жизни. При этом надо учитывать, что тот золотой запас был создан за счет рабского труда заключенных ГУЛАГа. Цена тому золоту — миллионы жизней.

Не понимаю тех, кто хвалит коммунистические времена. Да, дисциплина нужна, но не сталинский террор и милицейский беспредел. Посмотрите, как раздул Лукашенко штаты милиции. Но количество убийц, бандитов, наркоманов не уменшилось. Им легче искалечить жизнь беззащитным, чем тягаться с бандогами.

Или взять еще один вопрос. До прихода Лукашенко к власти граждане Беларуси платили при растаможивании автомобиля 10 центов США за 1 см.куб. двигателя. Тогдашний кандидат в президенты обещал, что пошлины меняться не будут. А теперь? Платить надо 40 центов США (в 4 раза выше). А куда уходят такие сумасшедшие деньги? Да еще ввели запрет на отчуждение автомашин, купленных за рубежом. Человек «дарит» государству сумасшедшие деньги, а распоряжаться своим кровным имуществом ему запрещают. Где еще такое могут придумать. Вот вам и права человека. Может кто-то скажет, что можно прожить без автомобиля, мол, что тут такого? Вот из «такого» и складывается наша жизнь, полная унижений — тут нельзя, там не положено, не обязательно знать и т.д.

А кому нужен конфликт с послами в Дроздах? Не могут быть все сразу плохими, а один он — хороший. Плохими у него стали и Позьняк, и Шушкевич, и старый парламент, благодаря которому он и вышел в люди. Тогда он мог критиковать всех и никто рот ему не закрывал. Критика лилась и по БТ, и по радио. А теперь? Мы мало знали, а теперь вообще забыли, что такое свобода слова.

**А.ШЕВЦОВ,** *г.Минск*



*Радкі з лістоў*

**АТРЫМАЛА Я НЯДАЎНА** бандэроль з украінскага горада Роўна. Ішла да Мінска 10 дзён, калі верыць паштовым штэмпелям. З тых жа штэмпеляў вынікае, што з Роўна тая каробка цукерак, якую мне выслала сяброўка, ішла ў Кіеў, пасля ў Гомель, адтуль ужо ў сталіцу... І гэта пры тым, што з Роўна ў Мінск праз дзень ходзіць непасрэдны цягнік нашай роднай Беларускай чыгункі.

Не магу зразумець логіку пошты. Тым больш што, напрыклад, у Лондан з Мінска бандэролі ідуць 5 дзён, хоць туды нашмат далей, чым да Роўна.

**Людміла СЕГЕНЬ,** *Мінск*

**ПРЫВІТАННЕ,** шаноўная рэдакцыя! Хацеў бы падзяліцца сваімі разважаннямі аб ідэі вяртання БНР, упершыню публічна выкладзенай Зянонам Пазьняком у вашай газеце. Напачатку яна мне падалася нават фантастычнай. Але калі я пачаў узважваць усе «за» і «супраць», параўноўваць з іншымі магчымымі варыянтамі развіцця, то з цягам часу прыйшоў да высновы, што ў гэтай ідэі вельмі шырокія перспектывы. Лукашэнку фактычна няма чаго супрацьпаставіць гэтаму руху ў ідэалагічным плане. Пра БНР і яе ролю ў лёсе незалежнасці ўжо ведаюць шмат нашых людзей.

Уся складанасць заключаецца ў тым, як мы самі будзем адносіцца да гэтай ідэі. Калі як да нязбыўнай мары, тады, пахаваўшы яе ў сваім сэрцы, пахаваем яе рэалізацыю. Калі ж мы будзем верыць у гэта і ўдзельнічаць у гэтым руху, тады з кожным крокам гэтая мара будзе рабіцца рэальнасцю, якую можна будзе пачуць, убачыць і памацаць рукамі, бо гэты рух будзе расці, як снежны ком.

**Павел КРУК,** *24 гады, канструктар, г.Магілёў*

**Выканаўчае бюро Беларускай сацыял-дэмакратычнай партыі выказвае глыбокае спачуванне старшыні Пінскай рэгіянальнай арганізацыі БСДП, дэпутату гарадскога савета Віктару Ярашуку з прычыны напаткаўшага яго гора — смерці МАЦІ.**

# Да Чорнага мора і назад

**Алег ГРУЗДЗІЛОВІЧ**



Тыя, хто адпачываў гэтым летам у Крыме, не дадуць схлусіць: сённяшні Крым значна адрозніваецца ад былой «всесоюзной здравницы». Не, сонца, мора, горы тыя ж самыя, але кідаюцца ў вочы і перамены, якія дазваляюць з задавальненнем адзначыць, што Крым усё ж не востраў. Разам з мацерыком ён павольна рухаецца ў бок, наканаваны гісторыяй.

## Грошы

Паколькі ў верасні яшчэ шмат хто можа адпачыць у Крыме, пачну свае нататкі з галоўных парадаў. Па-першае, наконт грошай. Адпраўляючыся ў Крым, трэба паклапаціцца аб пераводзе сваіх зберажэнняў у цвёрдую валюту. Долары ці маркі вы паўсюль абмяняеце на ўкраінскія грыўны, а вось рублі беларускія — толькі на беларуска-ўкраінскай мяжы ў валютчыкаў па нявыгадным курсе. З верасня ў Крыме цяжка абмяняць і расійскі рубель, таму на яго лепш не спадзявацца. Калі вы едзеце ў Крым на сваім транспарце і маеце магчымасць выбіраць, дзе абмяняць грошы, лепш зрабіць гэта ў Кіеве, чым у Крыме. Да прыкладу, у сярэдзіне жніўня курс грыўны ў Кіеве быў 2,17 за адзін долар, а ў Крыме на ўзбярэжжы за «зялёны» давалі толькі дзве грыўны. Такім чынам, выйграеце амаль на 10 баксаў на кожнай сотні.

Колькі грошай патрэбна для адпачынку ў Крыме? Для арыенціру прапаную такія кошты. У Ялце, Судаку, Кактэбелі ў сярэднім за ноч у жніўні бралі 4—5 долараў з чалавека. За прыватны пакой у Місхоры, Гаспры, Новым Свеце трэба выкласці 30—50 долараў.

Сама танна паабедаць у сталоўцы можна было за тры долары, але такіх сталовак яшчэ трэба пашукаць. У сярэдняй рукі рэстаранчыку можна ўкласціся ў 5 долараў, у вячэрнім кафэ з музыкай (нават калі вы возьмеце да шашлыка віно) хопіць і 10 долараў. Памятайце, што ў Крыме амаль усё каштуе прыкладна ў два разы даражэй, чым у Мінску.

## Адпачынак

Тых, хто помніць крымскія пляжы як месца, дзе можна на гадзіну заснуць пад шэпат хваляў, прыйдзецца расчараваць. Зараз на пляжах усё пастаўлена так, каб зарабіць на вас. Бясконцым ланцугом ідуць ды ідуць уздоўж пляжа гандляры розным печывам ды іншымі прысмакамі. Усе рэкламуюць свой тавар зычнымі галасамі, занудлівым тонам. Праз пару дзён вы ноччу будзеце ўскокваць ад гэтага кашмарнага «пахлава мядовая, самса слаёная, вобла салёная, піва халоднае». Ад гандляроў нідзе не схаваешся. Яны знойдуць вас нават у Ціхай бухце пад Кактэбелем, куды заможныя вандроўнікі дабіраюцца заблытанымі шляхамі, каб пабыць сам-насам з сонцам. І там за гарой Хамелеон, якая мяняе свой колер кожныя дзве гадзіны, вас дастане гэтая «пахлава мядовая». Праўда, тут не крычаць, а прапаноўваюць свой тавар ціха-ціха, амаль што позіркам.

Яшчэ адной новай прыкметай у Крыме з'явілася безліч кафэ па ўзбярэжжы і дыскатэкі, дзе да сярэдзіны ночы грыміць музыка. Таму, калі вы не хочаце да петухоў слухаць хіт сезона «Голубая луна», — здымайце кватэру далей ад мора. Будзе і танней, і спакайней.

## Дробны бізнес

У восем гадзінаў раніцы татарка Зульфія прыносіць нам малако — дзве грыўны за літр. А ўжо праз гадзіну Зульфія разам з дачкой гандлюе віном на пляжы. Апоўдні ідзём на мясцовы базарчык — Зульфія ўжо там, гандлюе нейкімі катлетамі. А ўвечары зноў на пляжы разлівае віно.

«Што зараз зараблю, на тое будзем жыць да наступнага сезону», — кажа Зульфія. Яна са Старога Крыму, мястэчка недалёка ад Кактэбеля, якое цяпер лічыцца як бы сталіцай татарскага Крыма. Прыехалі пяць гадоў таму з Узбекістана, дзе кінулі ўсю гаспадарку. Прыйшлося літаральна ўцякаць. Тут ужо прыстасаваліся хутка. Мясцовыя жыхары, па яе словах, гэта пераважна пасляваенныя «каланісты» ды іхнія нашчадкі — народ даволі лянівы. Калі не хадзіць, а бегаць, сярод іх пражыць можна. Татары сваю нішу знайшлі — гандлююць, смажаць шашлыкі, нешта перавозяць. Гледзячы на татараў, зашавяліліся і крымчукі, сярод якіх, дарэчы, нямала і беларусаў, што прыехалі асвойваць гэтыя землі ў 50-ыя гады па спецнабору. Сяргей, бацька якога з Пінска, зараз кіруе дзвюма платнымі прыбіральнямі на гарадскім пляжы. Ужо з раніцы Сярога пад градусам.

«Мафія тут кантралюе ўвесь гандаль, нават тыя ж платныя прыбіральні ёй належаць. Але стралянiны ўжо няма — усё падзелена, усе працуюць цывілізавана. З дробных гандляроў рэкет даніну ўжо не бярэ. Таму, калі працуеш старанна, пражыць можна. І падлеткі з задавальненнем ідуць гандляваць на пляж віном, шмоткамі ды іншым таварам. Моладзь хутчэй за нас зразумела, што Крым ужо не рай — тут таксама трэба змагацца за жыццё». Па-сяброўску падзяліўшыся гэтымі назіраннямі, Сярога адчыняе перада мною дзверы ў надраены да бляску клазет, але ўзяць з «земляка» 50 капеек не забывае. «Комэт» зараз дарагі», — кажа Сяргей.

Увогуле тое ж самае варта сказаць не толькі пра Крым, але і пра ўсю Украіну. Шавяліцца людзей прымушаюць эканамічныя рэаліі. Сярэдні заробак на дзяржаўных прадпрыемствах нават крыху ніжэй, чым у нас, а кошты на прадукты вышэй амаль удвая. Вось і зарабляюць людзі як могуць. На кожным пераскрыжаванні дарог — маленькі базарчык. Херсоншчына гандлюе дынямі ды кавунамі, Мікалаеўшчына — цыбуляй, памідорамі, вышэй на поўнач на базарах з'яўляюцца кукуруза, яблыкі, ігрушы, агуркі. Новая з'ява на дарогах Украіны — міні-кафэ. Гаспадыні выносяць да дарогі столікі, раскрываюць каляровыя парасоны і калі ласка: гарбата, кава, пірагі, віно. У некаторых мястэчках такіх кафэшак праз кожны двор. Машын едзе тысячы, гандаль ідзе, нейкая капейка ў сямейны бюджэт капае. Цікава, што гэтай прыватнай ініцыятыве дзяржава не чыніць ніякіх перашкодаў.

А вось адваротны прыклад. Раённы горад Казелец пад Кіевам. Гэтаму мястэчку, дзе ў XVIII стагоддзі славуты архітэктар Растрэлі пабудаваў царкву, у нашыя часы крыху не пашанцавала. Чатырохпалосная шаша Кіеў—Чарнігаў праходзіць усяго ў пяці кіламетрах ад горада, а ў ім самім — мёртвае царства. Мясцовы рэстаран шукаем па прыкметах савецкіх часоў — павінен быць недзе побач з помнікам Леніну. Нарэшце знайшлі. «За два дні вы ў нас першыя наведвальнікі», — здзіўляецца афіцыянтка. Абед зрабіла за паўгадзіны. Не танна, але смачна. На пытанне: "Як жывяце?" афіцыянтка адказвае: «Кепска. Плацяць тут усяго 20 грыўнаў у месяц».

Але такіх «выспаў сацыялізму» на Украіне застаецца ўсё меней. Красамоўны прыклад — украінскія запраўкі. Іх зараз столькі, што аўтамабілісту можна забыцца пра былы атрыбут любой вандроўкі — запасную каністру з палівам. Асабліва многа заправак вакол Кіева. Дзякуючы канкурэнцыі кошты на бензін тут куды танней, чым у іншых абласцях. Плюс выдатны сервіс і магчымасць набыць усё што трэба.

Гэтыя ўмовы давялося параўнаць з нашымі на зваротным шляху. Ад пераходу Новая Гута пад Гомелем амаль да Бабруйска ехалі як праз тайгу: ні заправак побач, ні кафэшак. Толькі даішнікі хаваюцца ў прыдарожным хмызняку.

## «Зялёны калідор»

Гэтак клічуць памежныя пераходы Новая Гута і Новая Рудня, праз якія ідуць асноўныя пасажырапатокі з Беларусі на Украіну і наадварот. Перасекчы тут мяжу не складана, але марудна. Чэргі на тры—чатыры гадзіны. Іх ствараюць як нашыя, так і ўкраінскія памежнікі ды мытнікі, якія старанна гуляюць у гульню пад назвай «пільнасць». Напрыдумлялі безліч паперак, якія трэба запоўніць, насадзілі безліч мужыкоў ля шлагбаўмаў, іхніх жонак у рэгістрацыйных будачках і цяпер задаволеныя сваім лёсам. Хоць які, але трывалы заробак. А чарга дае «ганарар». Каб праехаць без чаргі на Украіну, як высветлілася, трэба даць мясцоваму памежніку ад 5 да 10 долараў.

На зваротным шляху тое самае паўтарылася, але ўжо з удзелам беларускіх памежнікаў. За тыя ж 5—10 «баксаў» чалавек з лукашэнкаўскім гербам на рукаве без перашкодаў створыць табе «зялёны калідор», каб хутчэй патрапіў у зону мытнага кантролю, а там ужо засталася простая фармальнасць. Праз 5 хвілінаў ты на роднай зямлі.



*Мнение читателя*

# О гражданстве БНР

Хочу высказать несколько слов с одобрением акции БНФ об учреждении гражданства БНР.

Среди людей, не желающих мириться с существующим режимом, и, в первую очередь, среди живущих в небольших городах и на селе, это движение должно найти горячий отклик. Не имея возможности принимать участие в мероприятиях оппозиции, проводимых, как правило, в Минске и областных городах, эта часть противников режима не может и не хочет быть сторонними наблюдателями посткоммунистического разгула антинациональных сил. В массе своей это молодые, энергичные, хорошо образованные люди. Но их беда в том, что живут они в отрыве от своих единомышленников в политически пассивной среде. Только оппозиционная пресса поддерживает в них надежду на то, что они не одиноки в своих убеждениях. Но осознавать это сейчас уже мало. Поэтому такая форма организации и объединения, как движение граждан БНР, послужит консолидации лучших национальных представителей вокруг благородной национальной идеи.

Гражданство БНР более конкретное по своим принципам движение, чем, допустим, Хартия-97. Оно предполагает не только поддержку прав человека и демократических принципов, но и национальное самосознание участников, их ответственность за белорусскую государственность.

Что, в связи с этим, хотелось бы отметить. Ни в коем случае акция не должна носить временный, компанейский характер. В таком случае ее лучше и не начинать. Здесь нужен серьезный, методологически выверенный подход и крепкая, безукоризненная идейная база.

На мой взгляд, надо предусмотреть следующее:

1. Герб, гимн и флаг. Это все у нас есть. (В случае гимна — «Магутны Божа...»)

2. Паспорт гражданина БНР. Пусть он будет формальностью. Но это будет документ, говорящий каждому его обладателю о принадлежности к своему государству, к своей национальной общности. Он будет преумножать силы и укреплять веру каждого гражданина.

3. Основные принципы государственного строительства, сформулированные в конкретном документе. Может Манифесте или Статуте БНР. И не очень важно, кто его будет принимать, важно, чтобы этот документ был. Компактный, понятный простому человеку, национальный по своему содержанию, но не отвергающий общечеловеческих ценностей.

4. Правительство. Оно, безусловно, должно быть и должно действовать. Здесь видится такая двуединая структура в зависимости от направлений работы. С одной стороны, в него должны входить известные, авторитетнейшие люди, согласные работать своим именем для пропаганды БНР и ее идей, для привлечения сил и финансовых средств в то движение. С другой — это исполнительный комитет, ведущий всю организационную работу.

Где должно находиться правительство? Видимо, за рубежом. Здесь, в Беларуси ему полноценно действовать не дадут.

5. Организация институтов государства. Конечно, это дело не одного года. Но начинать надо. С радио, телевидения, прессы, странички в «Интернете». Потом надо открывать представительства за рубежом, закладывать основы армии, полиции, судебной системы и т.д. Надо создавать все заново, так как структуры, работающие на существующий режим, тем самым скомпрометировали себя, в большинстве своем лишились высококвалифицированных кадров и потеряли доверие у народа. Когда режим, не имеющий истории и идеи, рано или поздно лопнет, как мыльный пузырь, именно тогда все эти структуры БНР должны стать основой нового государства.

Таким мне видится в перспективе движение граждан БНР. И альтернативного пути, по-видимому, нет. Поднять сейчас на сопротивление разуверившийся, потерявший ориентиры, материально и морально ограбленный народ Беларуси невозможно. Но показать пример обладания идеей, которой стоит служить, мы должны.

*С глубокой признательностью и уважением*

**Н.ГАВРИЛЕНКО,**
*г.Борисов*

